# наша свабода

№126(213) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 ЛІСТАПАДА 2001 года
СЕРАДА

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Ланцуг прыяцеляў «Пагоні»



19 лістапада ў Гродне адбылася акцыя ў падтрымку газеты «Пагоня», дзейнасць якой забароненая гаспадарчым судом.

Каля 100 чалавек сшыхаваліся на вул. Савецкай. Яны трымалі плакаты з паведамленнем аб закрыцці газеты. Акцыя працягвалася адну гадзіну. Міліцыя зрабіла відэафільм, але разганяць удзельнікаў не стала. У Ленінскі РАУС былі выкліканыя галоўны рэдактар «Пагоні» М.Маркевіч і журналісты А.Пісальнік і П.Мажэйка. На ўсіх складзеныя пратаколы аб удзеле ў несанкцыяваным пікеце.

Апошнім нумарам газеты стаў 45-ы, які быў выдадзены 9 лістапада. Наступны выйшаў ужо толькі ў інтэрнэце. На гэтым тыдні павінен з'явіцца яшчэ адзін, таксама ў электронным варыянце.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Працяг тэмы на стар. 3*

## У Беларусі адроджана праваслаўная інквізіцыя

Тры святары Мінскай епархіі Беларускага экзархату Рускай праваслаўнай царквы – Пётр Бодак, Вячаслаў Гнедзько і Леанід Пляц – былі прымусовым чынам пазбаўленыя свайго сану за «раскольніцкую дзейнасць» і «парушэнне іерэйскай прысягі на вернасць Царкве і яе свяшчэнаначаллю».

Рашэнне аб пазбаўленні сану, прынятыя Сінодам Беларускага экзархату, зацвярджалася ў Маскве – 2 лістапада яго падпісаў Патрыярх Маскоўскі і ўсёй Русі Аляксій II.

«Раскольніцкая дзейнасць» – гэта мусіць быць заклік да стварэння нацыянальнай, Беларускай праваслаўнай царквы.

Як вядома, і ў Беларусі, і ў Расіі царква намінальна – па канстытуцыі – аддзеленая ад дзяржавы. Але ў абедзвюх краінах РПЦ надзвычай прэтэндуе на тое, каб стаць духоўным пастырам усіх грамадзянаў, нават і ў прымусовым парадку.

Пазбаўленне сану – адкрытая інквізіцыйная акцыя, якая нагадвае пра звычку сярэднявечча. Спасылкі нібыта на кананічную тэрыторыю Рускай праваслаўнай царквы нельга прымаць усур'ёз, ведаючы што рускае праваслаўе прыйшло на Беларусь пасля яе акупацыі расійскімі войскамі напрыканцы 18-га стагоддзя пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.

**Ніна ГАЛКА**

## Шарамета паклічуць у суд

З 23 лістапада ў судзе па справе «групы Ігнатовіча» распачнуцца допыты супрацоўнікаў беларускага бюро ОРТ у сувязі з эпізодам абвінавачання аб выкраданні Дзмітрыя Завадскага. Паводле звестак БелаПАН, у абласны суд выкліканы, у прыватнасці, кіраўнік аддзела спецпраектаў ОРТ Павел Шарамет.

Некалькі дзён таму Шарамет знаходзіўся ў Мінску для здымак новых серыяў фільма «Апошні год імперыі», прысвечанага распаду Савецкага Саюза. Ён таксама здымаў падзеі, што адбываліся ў Курапатах. У інтэрв'ю БелаПАН Шарамет паведаміў, што пакуль не атрымаў позву ў суд, але, паводле існуючых звестак, яго плануюць выклікаць на 26 лістапада.

*Заканчэнне на стар.3*

## У падтрымку «Брестского курьера»

Брэсцкія актывісты Беларускага Хельсінкскага камітэта і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) падалі ў гарвыканкам Брэста заяўку з просьбай дазволіць ім правядзенне 29-30 лістапада пікета перад будынкам мясцовай друкарні з прычыны падзеяў, што адбываюцца вакол недзяржаўнай газеты «Брестский курьер».

46-ы нумар газеты быў аддрукаваны ў Расіі, у Смаленскай друкарні, таму што ААТ «Брэсцкая друкарня» адмовілася друкаваць газету. 47-ы нумар газеты друкаваўся ўжо ў Брэсцкай друкарні. Начальнік абласнога ўпраўлення інфармацыі Рыгор Тамашэвіч лічыць канфлікт вычарпаным, а дырэктар друкарні Васіль Каленікаў патрабуе апублікаваць у «Брестском курьере» свой ліст з бачаннем сітуацыі. Разам з тым, галоўны рэдактар «Брестского курьера» Мікалай Аляксандраў лічыць, што сітуацыя нармалізавалася, аднак канфлікт не вычарпаны. Рэч у тым, што ўпраўленне юстыцыі аблвыканкама зноў накіравала ў рэдакцыю газеты ліст, дзе гаворыцца аб недапушчальнасці скажэння назваў грамадскіх аб'яднанняў і з'яўлення ў газеце назваў арганізацыяў, якія не прайшлі рэгістрацыю. У рэдакцыі «Брестского курьера» не выключаюць, што на падставе гэтага ліста газеце зноў можа быць вынесенае папярэджанне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Еўропа вагаецца

*У Беларусь накіруецца дэлегацыя для перамоваў з прадстаўнікамі ўладаў, апазіцыі і няўрадавых арганізацыяў. Гэтае рашэнне было прынятае на закрытым паседжанні Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ўчора, паведамляе агенцтва БелаПАН.*

Як мы ўжо паведамлялі, 19-20 лістапада ў Вільнюсе (Літва) абмяркоўвалася «беларускае пытанне». Чальцы Палітычнага камітэта ПАСЕ вырашалі, што рабіць з новым-старым беларускім кіраўніком дзяржавы, якую палітыку будаваць у дачыненні да Беларусі і ці варта вяртаць афіцыйнаму Мінску статус «адмыслова запрошанага» ПАСЕ, які краіна згубіла амаль пяць гадоў таму – пасля сумнавядомага рэферэндуму, што гвалтоўна змяніў канстытуцыю краіны і працягнуў прэзідэнцкія паўнамоцтвы А.Лукашэнкі.



Фота IREX/ProMedia

Тэры Дэвіс, старшыня Палітычнага камітэта ПАСЕ

*Заканчэнне на стар.3*

## Молдова становится на путь Беларуси

«Курс на стратегическое партнерство Молдовы и России получил правовую базу», — заявил журналистам в Москве президент Молдовы Владимир Воронин после того, как он и его российский коллега Владимир Путин подписали Договор о дружбе и сотрудничестве. Таким образом, уточнил молдавский президент, главная цель его официального визита в Россию выполнена. После того, как Договор был скреплен подписями президентов, примерно через полтора месяца Россия и Молдова должны его ратифицировать.

В соответствии с этим документом, Кишинев и Москва воздерживаются от любых действий, которые могут нанести ущерб суверенитету, независимости и территориальной целостности России и Молдовы. Кроме того, оба государства будут регулярно проводить консультации и обмен мнениями по международным вопросам и проблемам региональной безопасности. Одним словом, как сказал Владимир Воронин, подписание этого документа завершает произошедшую за последние полгода «тихую революцию» в российско-молдавских отношениях.

*Окончание на стр.3*

## Тытунь мусіць працаваць на Лукашэнку

Учора беларускі кіраўнік правёў нараду з удзелам прадстаўнікоў урада, прысвечаную развіццю рынку тытунёвых вырабаў. На ёй было адзначана, што дзяржава пакіне гэты рынак пад сваім пільным кантролем.

У якасці рэверансаў здароваму ладу жыцця А.Лукашэнка адзначыў, што ідэальным рашэннем усіх тытунёвых праблемаў стала б «поўная адмова ад палення па ўсёй краіне». Але гэта было б надзвычай нявыгадна для беларускага бюджэту. Таму ўвесь астатні час нарады быў прысвечаны абмеркаванням шляхоў, якія толькі падарвуць здароўе мільёнаў беларусаў.

*Заканчэнне на стар.3*

## НДІ нафты шукае партнёра ў Іраку

Ва ўсясьветным друку ўжо зьявіліся матэрыялы, што наступным пасьля Афганістану крокам антытэрарыстычнай апэрацыі можа стаць атака на Ірак. Але гомельскаму навукова-дасьледчаму інстытуту да гэтага няма справы.

Рэжым Садама Хусэйна нібыта таксама спрычыніўся ня толькі да падзеяў 11 верасня ў Нью-Ёрку, але і да распаўсюджваньня ў Злучаных Штатах Амэрыкі спораў антраксу. Нягледзячы на гэткія абставіны, Беларускі навукова-дасьледчы і праектны інстытут нафтавай прамысловасьці, што разьмешчаны ў Гомелі, спрабуе наладзіць дзелавыя дачыненьні з нафтавым ведамствам Іраку.

Зараз у Багдадзе знаходзіцца загадчык аддзелу праграмаваньня Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту нафтавай прамысловасьці Сяргей Кавальчук. Гэта ўжо ня першая паездка гомельскіх навукоўцаў у Ірак. Выязджаў туды і сам дырэктар інстытуту Ігар Стрышынскі.

*Заканчэнне на стар.3*

## Праект мемарыялізацыі Курапатаў

Ініцыятыва «Моладзь у абарону Курапатаў» прыняла рашэнне, што, нягледзячы на халадэчу, вахта ва ўрочышчы працягнецца. Апрача таго, моладзь будзе рэалізоўваць свой праект мемарыялізацыі Курапатаў. Праект прадугледжвае ўстаноўку вялікіх драўляных памятных крыжоў па ўсім перыметры ўрочышча, узвядзенне некалькіх драўляных капліцаў, пабудову драўлянай Сцяны Памяці.

## Менчукі пакрыўдзілі югаслаўскага пасла

Пасярод белага дня ў цэнтры Мінска быў абрабаваны амбасадар Югаславіі ў Беларусі Нікола Пяякавіч, які 22 лістапада будзе ўручаць даверчыя граматы Аляксандру Лукашэнку. Дыпламат зразумеў, што стаў ахвярай злодзея, калі хацеў было разлічыцца за стрыжку ў цырульні. Разам з партмане знікла 375 долараў і 50 тысяч беларускіх рублёў.

## «Гарачая лінія» для будучых вайскоўцаў

Міністэрства абароны адкрыла «гарачую лінію» для прызыўнікоў і іх бацькоў. Кансультацыі па прызыве на тэрміновую службу ў войску можна атрымаць кожную сераду з 10 да 11 гадзінаў па тэлефоне 284-90-11.

## Перарэгістрацыя будзе няхутка

Начальнік упраўлення грамадскіх аб'яднанняў міністэрства юстыцыі Міхаіл Сухінін паведаміў, што бліжэйшым часам перарэгістрацыі палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў праводзіцца не будзе, бо зараз мяркуецца ўнесці толькі нязначныя дапаўненні ў некаторыя нарматыўна-прававыя дакументы. На сёння ў мінюсце зарэгістраваныя 17 палітычных партыяў, 38 прафсаюзаў і блізу 2,5 тысяч грамадскіх аб'яднанняў.

## Ваколфестывальны канфлікт

Не выключана, што канфлікт паміж газетамі «Беларуская маладзёжная» і «Советская Белоруссия» можа дайсці да суда, калі бакі не разбяруцца самі. Як падае Радыё «Рацыя», рэч у тым, што «БМ» дапусціла крытыку артыкула «СБ» пра маладзёжны фестываль «Казантып» за неаб'ектыўнасць. Тая запатрабавала прабачэнняў.

## Бура нарабіла бяды

Ад моцнага ветру, які пранёсся на Магілёўшчыне, пацярпела 11 раёнаў. Без святла засталіся пяць дзесяткаў населеных пунктаў, з многіх дамоў і фермаў сарвала дахі.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1540**

ІНТЭРНЭТ

## Мінск апярэдзіў Пецярбург

Арганізатары расійскага інтэрнэт-конкурсу «Залаты сайт-2001» здзіўленыя актыўнасцю беларускіх веб-майстроў. Пра гэта БелаПАН паведаміў член журы конкурсу, арт-дырэктар кампаніі вебдызайну «Рэд Графік» Сяргей Осіпаў.

Паводле яго словаў, заявак на ўдзел з Мінска паступіла ўжо больш за 50 — гэта ў паўтара раза больш, чым, скажам, з Пецярбурга. Сама намінацыя «Замежжа» на 90% сфарміраваная з беларускіх сайтаў. Менавіта таму, зазначыў Сяргей Осіпаў, арганізатары прапанавалі правесці цырымонію ўзнагароджвання ў дадзенай намінацыі ў Мінску. Пераможцы з іншых краінаў прыедуць за ўзнагародамі ў Беларусь.

Конкурс «Залаты сайт» з'яўляецца адным з праектаў Усерасійскай інтэрнэт-акадэміі, дзе адгукнуліся на просьбу Сяргея Осіпава і ўключылі ў праграму конкурсу спецыяльную намінацыю «Замежжа». Менавіта ў ёй могуць прадстаўляць свае работы вебдызайнеры і распрацоўшчыкі, у прыватнасці, з Беларусі. З такой ініцыятывай Осіпаў выступіў з-за таго, што, у адрозненне ад папярэдніх гадоў, сёлета ў Беларусі не праводзіцца ніводнага падобнага нацыянальнага фестывалю ці інтэрнэт-фестывалю.

**Аляксей АРЭШКА**

## У Глабальны рух — з друзам трагедыяў

Практычна ўсе з больш як 35 беларускіх жаночых арганізацыяў, створаных пры партыях, па нацыянальнай прыкмеце, па агульных прафесіянальных інтарэсах і г.д. дэлегавалі сваіх лідэраў на навукова-практычную канферэнцыю ў Брэсце 19-20 лістапада. Яна атрымала назоў «Удзел жаночых грамадскіх арганізацыяў у Глабальным руху ў інтарэсах дзяцей» і мела на мэце падсумаваць вынікі першай дабрачыннай акцыі ў новым тысячагоддзі «Скажам дзецям ТАК».

Як адзначалася на канферэнцыі, хаця з 1993 года ў Беларусі прынятыя 27 заканадаўчых актаў, накіраваных на паляпшэнне становішча дзяцей, маці і сям'і, але абсалютна ўсе паказчыкі сацыяльнага становішча набываюць катастрафічны ўзровень. Прыкладам, захворвальнасць дзяцей павялічылася на 35%. На 1 верасня 2000 года колькасць дзяцей-інвалідаў склала 29.000 (у 1990 годзе іх было 12.398). Практычна кожнае дзевятае дзіця дашкольнага і школьнага ўзросту мае адхіленні ў фізічным і (ці) разумовым развіцці. Пры сумнай тэндэнцыі змяншэння дзіцячага насельніцтва з 27,4 % у 1990 годзе да 23,9% у 1999 годзе, агульная колькасць дзяцей-сіротаў і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, павялічылася за гэтае дзесяцігоддзе ў 2,6 раза. У цяперашні час у Беларусі 29,1 тысячы сіротаў. Цяжкая сацыяльна-эканамічная сітуацыя спрыяе, на жаль, амаладжванню злачыннасці — на 20% павялічылася колькасць асуджаных падлеткаў, 27 тысячаў дзяцей ужываюць спіртныя напоі, з якіх каля 10 тысячаў маюць ужо алкагольную залежнасць.

**Галіна БАРАВАЯ**

МОВА

## Дыснэй па-беларуску

У Мінскім Палацы дзяцей і моладзі 16 лістапада адбылося свята мультфільмаў «Дыснэй па-беларуску». Свята наладзіў сямейны клуб «Сябрына», у якім аб'ядналіся сем'і, зацікаўленыя ў актыўным далучэнні сваіх дзяцей да беларускай культуры.

Як паведаміла БелаПАН педагог-арганізатар, кіраўнік клуба «Сябрына» Вольга Марачкіна, у госці да малых гледачоў завітаў акцёр Алег Радкевіч, які браў удзел у агучванні шматлікіх персанажаў дыснэеўскіх мультфільмаў. Дзеці з радасцю глядзелі ўрыўкі з любімых мульцікаў, прымалі ўдзел у віктарынах, з ахвотай дзяліліся сваімі ўражаннямі і меркаваннямі. Сапраўдным упрыгожваннем свята сталася выступленне тэатра моды Сярэднявечча рыцарскага клуба «Ордэн Паўночнага Храма». Пасля прагляду ўрыўка з мультфільма на рыцарскі сюжэт «Меч у камяні» дзяўчаты ў дзівосных строях, падобныя на казачных прыгажунь, выканалі старасвецкія танцы.

Па словах сп. Марачкінай, адзіным спонсарам па выпуску відэакасет для дзяцей на беларускай мове з'яўляецца камерцыйная фірма «Сотвар», якой за два гады ўдалося выдаць 14 самых папулярных дыснэеўскіх мульцікаў і 16 найменняў аўдыёкасет.

**Марат ГАРАВЫ**

## 155 мінімалак за мітынг

19 лістапада Язэп Палубятка пакараны Мастоўскім судом на 155 мінімальных заробкаў. Ён правёў дазволены мітынг у абарону рабочых у суботу. Адзінае, што ўладам у апошні момант захацелася, каб мітынг быў у нядзелю, а не ў суботу.

Заяўшчыкі хацелі правесці мітынг 2 лістапада. Але ўлады папрасілі перанесці яго. Арганізатары выканалі пажаданне і перанеслі яго на 10 лістапада. 9-га ўлады прыслалі раптам афіцыйную паперу аб пераносе мерапрыемства на 11-га. Аднак удзельнікі былі ўжо папярэджаныя, таму мітынг адбыўся менавіта 10-га.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ЗАБАЎКІ

## Аблога напярэдадні «бамбёжкі»

Нелегальны продаж піратэхнічных сродкаў — петардаў, ракетаў і феерверкаў — захліснуў Брэст. Абласное ўпраўленне міністэрства па надзвычайных сітуацыях і супрацоўнікі міліцыі вымушаныя былі ўзяць у аблогу камерцыйныя шапікі і напоўную выкарыстоўваць штрафныя санкцыі ў памеры ад 3 да 10 мінімальных заробкаў .

Між тым, сітуацыю з выбуховымі сродкамі распаліла рашэнне Брэсцкага аблвыканкама аб афіцыйным дазволе іхняга продажу толькі з 1 снежня бягучага года да 15 студзеня 2002 года. Гэта спрацавала як дэтанатар, бо прадаўцы даўно назапасілі імпартныя цацкі, а дзятва згарае ад нецярплівасці далучыцца да вулічнай кананады аглушальных выбухаў і асляпляльных агнёў. На жаль, акрамя як адміністрацыйнага ўціску на гэты ажыятаж, і сёлета не практыкуецца прывіццё дзецям культурнага абыходжання з папулярнымі ва ўсім свеце навагоднімі атрыбутамі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

СТАСУНКІ

## Трохі Шры-Ланкі на Гомельшчыне

10 дзён пражылі ў адселенай вёсцы Селішча Добрушскага раёна Гомельскай вобласці 16 грамадзянаў Рэспублікі Шры-Ланка, якія з'яўляюцца студэнтамі падрыхтоўчага аддзялення Гомельскага дзяржаўнага медінстытута.

Новых жыхароў вёскі выявілі інспектары дарожнай міліцыі, пра што і паведамілі ў райаддзел. Аказалася, што 7 лістапада студэнты накіраваліся на цэнтральны рынак Гомеля да знаёмага, які займаецца незаконным абменам валюты, і той прапанаваў ім адзначыць свята ў сябе на дачы. Студэнты сабралі руказкі і прыехалі ў вёску Селішча. Паводле іх словаў, невядомыя людзі іх там абрабавалі, а потым зачынілі ў адным з дамоў і выставілі ахову. Да моманту прыезду міліцыі ніякай аховы выяўлена не было. 9 студэнтаў знаходзіліся ў вёсцы, 6 чалавек бадзяліся па лесе, а аднаго са студэнтаў не могуць знайсці і дагэтуль.

Абвергнуць паведамленні студэнтаў міліцыі няма чым, доказаў таго, што яны хацелі незаконна пакінуць межы Беларусі, пакуль няма. Дакументы ва ўсіх у норме, таму няма падставаў і для іх дэпартацыі. Гомельскі дзяржаўны медінстытут пачаў службовую праверку па гэтым факце самавольнай адлучкі замежных студэнтаў.

**Ірына ШАНЦАВА**

## Новы даўгабуд

Будаўніцтва комплексу па перапрацоўцы і захаванні небяспечных адходаў прамысловасці ў Чачэрскім раёне, якое планавалася скончыць да 2003 года, зацягваецца. Са словаў кіраўніка аддзела дзяржкантролю за абыходжаннем з адходамі міністэрства аховы прыродных рэсурсаў Аляксандра Клопава, пакуль аб'ект атрымаў толькі трацінy з запланаваных грошай. Ніводнае прадпрыемства, у выніку вытворчасці якога ўтвараюцца небяспечныя адходы, у фінансаванні аб'екта ніякага ўдзелу не бяруць. Таму да ліпеня 2002 года будзе распрацаваная адпаведная праграма, якая іх абавяжа ўдзельнічаць у фінансаванні падобных аб'ектаў.

Раней планавалася, што такія перапрацоўчыя комплексы з'явяцца ў кожнай вобласці, а Чачэрскі, у прыватнасці, па задуме быў разлічаны на патрэбы ў перапрацоўцы адходаў толькі адной Гомельскай вобласці. Зараз зразумела, што вобласць такі комплекс не выцягне, таму яму вырашана надаць статус аб'екта рэспубліканскага значэння. Тым больш, што з-за аддаленасці перспектываў будоўлі іншых падобных комплексаў па перапрацоўцы небяспечных адходаў прамысловасці, па сутнасці, Чачэрскі комплекс будзе абслугоўваць прадпрыемствы з усёй краіны. Ён разлічаны на перапрацоўку 31 тысячы тонаў адходаў на год, а па краіне іх ствараецца да 23 мільёнаў тонаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

ПРЫРОДА

## Стаўка на паляўнічы турызм

Міністэрства прыродных рэсурсаў мае намер усяляк садзейнічаць прытоку ў нашыя паляўнічыя гаспадаркі замежных паляўнічых. Са словаў Алега Сідарэнкі, начальніка спецыялізаванай інспекцыі дзяржкантролю за выкарыстоўваннем і аховай жывёльнага свету, вядзеннем паляўнічай гаспадаркі і стану запаведнай справы міністэрства прыродных рэсурсаў, паляванне за мяжой зараз адзін з самых прыбытковах відаў турызму. У прыватнасці, Венгрыя – «паляўнічая Мека» — штогод атрымлівае ад палявання 2 мільярды долараў даходу.

Нам, на жаль, да гэтага далёка, бо з усіх фактараў, якія ўплываюць на замежнага паляўнічага ў выбары краіны адпачынку, у нас няма праблемаў толькі з колькасцю жывёлаў. Ласёў у нас зараз налічваецца каля 16 тысяч асобінаў, аленяў – каля 5 тысяч, дзікоў— 35 тысяч і 50 тысяч казуляў. Але няма неабходнай інфраструктуры адпачынку, не стае людзей, якія б ведалі, як карміць і гадаваць звяроў. Спадзеў толькі на прыватнікаў і на іх грошы. Таму, паводле Алега Сідарэнкі, надалей паляўнічую гаспадарку чакае дэмакратызацыя, а правы арандатараў будуць пашырацца. Пакуль укладаюць грошы і прывозяць да нас замежных паляўнічых каля дзесятка прыватных структураў.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

ЛЮСТРАФАКТ




Святар Рускай праваслаўнай царквы асвячае плакаты па агнявой падрыхтоўцы. Ці па-хрысціянску гэта?

ЭКАЛОГІЯ

## Небяспечны аб'ект, безабаронныя зоны

Скліканы ў другой дэкадзе лістапада ў Брэсце рэспубліканскі семінар па гігіене навакольнага асяроддзя не даў адказу на хвалюючае для насельніцтва горада пытанне, ці доўга яшчэ жыць пад прамой пагрозай «міні-Чарнобыля» на былой грузаперавалцы расійскай уранавай руды ў краіны сацлагеру. Эколагі толькі, як гаворыцца, падлілі алею ў агонь непрымірымых спрэчак, бо канстатавалі, што на аб'екце «802» па-ранейшаму высокая радыеактыўнасць у межах ад 500 да 1.650 мкР/гадз., а ў дадатак радыяцыя «прасачылася» ўжо на глыбіню 1,5 метра. Пры высокім узроўні падпору глебы верхняй вадой у абалоні Буга (па дадзеных геолагаў — 160 см) не доўга засталося чакаць яшчэ адной тэхнагеннай катастрофы.

Экалагічныя праблемы іншага характару таксама не абмінаюць абласны цэнтр з наяўнасцю тут прадпрыемстваў з не вельмі «чыстымі» тэхналогіямі. Завод «Колератрон», электралямпавы і электрамеханічны назапасілі крытычныя аб'ёмы таксічных і ядавітых адходаў, асабліва ад гальванікі. Да 10 тонаў нерастваральных асадкаў у год утвараецца на ачышчальных збудаваннях ад аўтамыек транспартных гаспадарак. У Брэсце павялічваецца фонавы ўзровень гарадскога шуму. І негатыўным чынам на экалагічнай сітуацыі ў рэгіёне адбіваецца размяшчэнне 39 прамысловых прадпрыемстваў у раёнах жылой забудовы. Усе яны не маюць нарміраваных санітарна-ахоўных зонаў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**



## Кватэру — вундэркінду

Гомельскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб выдзяленні ў Гомелі двухпакаёвай кватэры сям'і таленавітага хлопчыка з Хойнікаў Мішы Савянка. Міхаіл Савянок вучыцца ў 6-м класе, нягледзячы на тое, што яму толькі 10 гадоў. Проста раней ён асвоіў праграму двух гадоў навучання за адзін год. У Мішы выключныя матэматычныя здольнасці, унікальная памяць і лагічнае мысленне. Хлопчыка называюць вундэркіндам не толькі ў Хойніках, але ўжо і ў Гомелі. Сёлета ён быў узнагароджаны спецыяльнай прэміяй аблвыканкама. Для развіцця сваіх здольнасцяў бацькам Мішы параілі перасяліцца ў буйны горад, бліжэй да адукацыйных і навуковых цэнтраў. На жаль, матэрыяльнай магчымасці ў іх не аказалася. Таму абласныя ўлады і прынялі рашэнне аб выдзяленні сям'і Мішы двухпакаёвай кватэры ў Гомелі.

**Ірына ШАНЦАВА**

МАСТАЦТВА

## З самадзейных у заслужаныя

Урад зацвердзіў палажэнне аб парадку надання звання «заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь».

Для гэтага самадзейныя калектывы (тэатральныя, вакальна-харавыя, інструментальныя, харэаграфічныя, эстрадна-цыркавыя, фальклорна-этнаграфічныя, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), а іх у нас у краіне тысячы, мусяць мець «высокі выканальніцкі ўзровень; стабільную творчую дзейнасць на працягу 10 гадоў; актыўную канцэртную дзейнасць, пастаяннае абнаўленне рэпертуару; неаднаразовае атрыманне лаўрэацкага звання на міжнародных і рэспубліканскіх аглядах і фестывалях народнага мастацтва». Апрача таго, павінна быць рэкламна-інфармацыйная прадукцыя, такая як аўдыё- і відэазапісы, афішы, фотаздымкі.

Выгады наяўнасці «заслужанага» звання такія: выдзяленне мясцовымі органамі ўлады і ўстановамі, пры якіх дзейнічаюць творчыя калектывы, асобных памяшканняў, сродкаў на набыццё касцюмаў, гукаўзмацняльнай тэхнікі, на рэкламу. Апрача таго, можа быць атрыманы дзяржзаказ ці грант.

**Кірэй МАНУЙЛА**

ГВАЛТ

## Супраць сексуальнай эксплуатацыі дзяцей

Мінская старшакласніца Яўгенія Вароніч прадстаўляе Беларусь на канферэнцыі Еўрасаюза па прадухіленні сексуальнага выкарыстання дзяцей, якая адкрылася 19 лістапада ў Будапешце (Венгрыя). Удзельнікі канферэнцыі — палітыкі, рэлігійныя і грамадскія дзеячы — абмяркуюць захады, якія неабходна прыняць на дзяржаўным і грамадскім узроўнях для барацьбы з гэтай сацыяльнай заганай. Прадстаўнікоў дзіцячых ініцыятываў запрасілі ў Будапешт, каб улічыць меркаванне саміх дзяцей па гэтай праблеме.

Яўгенія Вароніч — валанцёр Рэспубліканскай маладзёжнай грамадскай арганізацыі «Ліга добраахвотнай працы моладзі» (ЛДПМ), удзельніца праекта «Маладыя супраць сексуальнага насілля і эксплуатацыі дзяцей», што праводзіцца ў розных краінах пад эгідай Міжнароднага дзіцячага каталіцкага бюро (BICE). У рамках праекта вучні трох беларускіх сярэдніх навучальных установаў (гімназіі, школы і спецыяльнага прафтэхвучылішча) правялі сярод сваіх равеснікаў анкетаванне па праблемах сексуальнага насілля.

«Відавочна, што дзеці больш давяраюць дзецям, і мы чакалі, што наша апытанне прынясе больш дакладныя вынікі, чым анкетаванні, якія праводзяцца дарослымі, — паведаміў каардынатар праекта, дырэктар каардынацыйна-кансультацыйнага цэнтра ЛДПМ Аляксей Ананенка. -- Але атрыманыя звесткі нас проста ўразілі: каля 16% апытаных падвяргаліся сексуальнаму насіллю, каля 45% — адчувалі такую пагрозу».

**Святлана НЯСТРАХАВА**

# Крымінальная справа на Сярэдзіча

*Падставай для ўзбуджэньня крымінальнай справы сталіся верасьнёўскія публікацыі ў «Народнай волі» — заявы лідэраў палітычных партыяў і грамадзкіх рухаў Беларусі, якія ўваходзяць у шырокую грамадзкую кааліцыю, а таксама артыкулу прафэсара, сябра-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Івана Нікітчанкі «Белыя плямы Беларусі й Расеі. Хто ж захоча мець справу з такім несумленным партнэрам?»*

Старшыня менскага аблвыканкаму Мікалай Дамашкевіч зьвярнуўся ў пракуратуру з заявай, у якой запатрабаваў прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці за паклёп галоўнага рэдактара «Народнай волі» Іосіфа Сярэдзіча.

Спадар Дамашкевіч палічыў паклёпам наступныя радкі з заявы лідэраў палітычных партый: «5 верасьня 2001 года пад кіраўніцтвам старшыні Менскага аблвыканкама Дамашкевіча адбылася нарада з намесьнікамі старшыняў райвыканкамаў Менскай вобласьці. Пад падпіску аб неразгалошваньні ім выдалі пакет са схемай фальсыфікацыяў вынікаў галасаваньня на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі нарады атрымалі «Матэрыялы ў дапамогу сябрам тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій ...», якія па сутнасьці зьяўляюцца інструкцыяй па барацьбе з назіральнікамі. Аналягічная праца вялася з работнікамі раённых структураў выканаўчай улады ў іншых абласьцях краіны. Кіраўнікамі раённых адміністрацыяў былі наладжаныя нарады са старшынямі выбарчых камісіяў, у часе якіх даводзіліся кантрольныя лічбы, на якія павінны былі выйсьці камісіі пры падвядзеньні вынікаў выбараў Прэзідэнта».

У пракуратуру для тлумачэньняў выклікаліся пяцёра з адзінаццаці падпісантаў Заявы — Уладзімір Ганчарык, Сяргей Калякін, Павал Казлоўскі, Васіль Лявонаў і Міхаіл Марыніч. Пасьля гэтага пракурор Ленінскага раёну Аляксей Стук распачаў крымінальную справу супраць рэдактара «Народнай волі» за паклёп.

Як распаўсюджваньне паклёпу праз сродкі масавай інфармацыі расцэньвае пракуратура і публікацыю артыкулу прафэсара Івана Нікітчанкі.

Міхаіл Марыніч кажа: «Я лічу, што гэта замова, каб атакаваць незалежную прэсу. Ціск уладаў на незалежную прэсу, якая адлюстроўвае карціну нашага жыцьця і прэзыдэнцкай кампаніі. Аляксандар Лукашэнка не адбыўся як прэзідэнт. Ён казаў, што элегантна выйграў перамогу. Гэта не так».

Васіль Лявонаў так ацэньвае зварот Дамашкевіча ў пракуратуру: «Цяжка сказаць, хто каму даваў загад. Але такія загады аддаюць тым, хто згодны іх выконваць. Хто не мае гонару, той пачынае яго шукаць».

Калі пракуратура здолее даказаць склад злачынства з боку Іосіфа Сярэдзіча, яму пагражае штраф альбо папраўчыя работы, альбо арышт да 6 месяцаў, ці абмежаваньне свабоды тэрмінам на тры гады і нават пазбаўленьне волі на два гады.

**Любоў ЛУНЁВА**
**Радыё «Свабода»**

# Тытунь мусіць працаваць на Лукашэнку

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*


Фота IREX/ProMedia

Канешне, «калі гэта не зраблю я, то гэта зробяць іншыя». Аднак калі кіраўнік дзяржавы сапраўды дбаў пра здароўе сваіх суграмадзянаў, то ён бы лепш стымуляваў распрацоўку стратэгіі шырокай кампаніі супраць паленьня або дапамагаў бы анкалагічным клінікам.

Вытворчасць і продаж цыгарэтаў і папяросаў з'яўляюцца высокапрыбытковым бізнесам, які мусіць фарміраваць бюджэт краіны. З гэтага вынікае, што, як адзначыў кіраўнік дзяржавы, тытунёвая галіна мусіць працаваць эфектыўна і актыўна папаўняць бюджэт.

Падчас свайго выступу А.Лукашэнка раскрытыкаваў дзеянні ўрада і падкрэсліў, што ягоныя даручэнні па стварэнні надзейнай гандлёвай сеткі для продажу тытунёвых вырабаў беларускай вытворчасці, а таксама іхняй абароны ад замежных канкурэнтаў не выкананыя. Гродзенская тытунёвая фабрыка не скончыла рэканструкцыю, а яе прадукцыя не карыстаецца вялікім попытам у беларусаў. Па-ранейшаму не ўпарадкаваны імпарт, працягваецца кантрабандны ўвоз цыгарэтаў з-за мяжы.

Аляксандр Лукашэнка быў занадта абураны тым, што кантрабандысты-імпарцёры пакідаюць бюджэт Беларусі без «законнай» выручкі. Ён заявіў: «Спекуляваць і нажывацца на звычках і схільнасцях людзей на шкоду казне і здароўю народа недапушчальна». Афіцыйнае агенцтва БелТА дадае, што «ніхто не мусіць грэць на гэтым рукі, падкрэсліў прэзідэнт». Атрымоўваецца, апрача дзяржавы.

Кіраўнік дзяржавы прапанаваў таксама стварыць адзіны заканадаўчы дакумент, які б рэгламентаваў увоз і продаж тытунёвай прадукцыі ў Беларусь.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## ТВОРЦЫ


Фота Ул.ШЛАПАКА

20 лістапада ў Мінску прайшоў 17-ы з'езд Саюза мастакоў Беларусі, на якім мастакі абмеркавалі стан беларускага мастацтва і свае надзённыя праблемы ў варунках сённяшняга няпростага жыцця

# НДІ нафты шукае партнёра ў Іраку

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

З надзейных крыніцаў стала вядома, што ранейшыя і цяперашні прадстаўнік нафтавай навукі Беларусі павінен схіліць чыноўнікаў міністэрства нафты Іраку да заключэньня адмысловага кантракту.

Гамельчукі прапануюць тамтэйшай Паўночнай нафтавай кампаніі распрацаваць мадэлі падземных рэзэрвуараў нафтавых радовішчаў, базу ўсіх неабходных звестак пра іх.

Ірацкі бок зацікаўлены ў дасьледаваньні і праграмным забеспячэньні сваіх радовішчаў нафты, аднак падпісаньне кантракту зацягвае. Гамельчукі ў Іраку дзейнічаюць пры пасярэдніцтве прадстаўнікоў канцэрну «Белфарм», які пастаўляе іракцам лекі.

Пасярэдніцтва, аднак, не засьцерагае ад эканамічных санкцыяў ААН. Навукоўцам няма мажлівасьці даставіць у Багдад кампутаровую тэхніку і адмысловыя праграмы.

Пошукі кантрактаў у далёкім Іраку – мера вымушаная, а не імкненьне паспрыяць рэжыму багдадскага дыктатара. Навукова-дасьледчы інстытут, гэтаксама як і вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта», узмоцнена шукаюць для сябе новага поля дзейнасьці, паколькі беларуская нафтаздабыча застаецца апошнія гады ў межах 2 мільёнаў тон нафты.

Дэкляраваная ж распрацоўка радовішча нафты у Нянецкай аўтаномнай акрузе Расеі немагчымая з прычыны вялікіх фінансавых выдаткаў, якія беларуская дзяржава пакуль ня можа сабе дазволіць.

**Казімер ЯНОЎСКІ**
**Радыё «Свабода»**

# Журналістаў будуць судзіць

У дачыненні да двух журналістаў гродзенскай недзяржаўнай газеты «Пагоня» Анджэя Пісальніка і Паўла Мажэйкі, а таксама рэдактара газеты Міколы Маркевіча складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні — за правядзенне несанкцыянаванага пікета ў абарону закрытай Вышэйшым гаспадарчым судом Беларусі газеты (артыкул 167-1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь). Акцыя прайшла 19 лістапада на вуліцы Савецкай у Гродне і сабрала больш за 100 удзельнікаў — журналістаў і чытачоў газеты, якія разгарнулі лозунгі, асуджаючыя падаўленне свабоды слова ў Беларусі.

Трое журналістаў пасля завяршэння акцыі пратэсту былі запрошаныя ў аддзел міліцыі Ленінскага раёна, дзе ў дачыненні да іх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Ужо 20 лістапада справы Анджэя Пісальніка і Паўла Мажэйкі будуць разгледжаныя ў судзе Ленінскага раёна горада Гродна. Суд над рэдактарам «Пагоні» Міколам Маркевічам адбудзецца пазней, пасля яго вяртання з Польшчы. Адразу пасля правядзення пікетавання Мікола Маркевіч адбыў у гэтую краіну для сустрэчы з уплывовымі палітыкамі. Беларускі журналіст мае намер прапанаваць ідэю арганізацыі слуханняў у Сейме Рэспублікі Польшча па пытанні аб закрыцці адной з вядучых дэмакратычных газет і наступу на свабоду слова ў Беларусі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Шарамета паклічуць у суд

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Як заявіў Шарамет, увесь гэты час, што прайшоў з часу знікнення аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага (7 ліпеня 2000 года), ён застаецца перакананым, што да знікнення датычныя ўлады Беларусі. «Я лічу групу Ігнатовіча або звяном у шырокім ланцугу, або проста выканаўцамі, — сказаў Шарамет. — Я дагэтуль упэўнены, што да гэтай справы датычныя спецслужбы. У мяне ёсць сур'ёзныя падставы падазраваць тагачаснага кіраўніка Савета бяспекі Віктара Шэймана, які кантралюе пастаўкі зброі з Беларусі (паводле версіі, што прагучала ў шэрагу беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, зброя пастаўлялася ў тым ліку ў Чачню. — **БелаПАН.**). Да гэтага чалавека з кожным днём усё болей і болей пытанняў. Шкада толькі, што ён зараз курыруе тое ведамства, якое гэтыя пытанні павінна задаваць (Пракуратуру Рэспублікі Беларусь. — **БелаПАН.**)». Паводле звестак Шарамета, хутчэй за ўсё, заказ аб выкраданні Завадскага Лукашэнка асабіста не даваў — гэта самастойныя дзеянні структураў, звязаных з Саветам бяспекі.

На мінулым тыдні адзін з падсудных па дадзенай крымінальнай справе — Аляксей Гуз — звярнуўся да сваякоў Завадскага, заявіўшы, што ні ён, ні Валерый Ігнатовіч, ніхто з іншых абвінавачваемых не датычныя да забойства тэлеаператара. Аднак судовы працэс, паводле звестак Шарамета, пабудаваны так, што ў падсудных практычна няма магчымасці штосьці сказаць. «У мяне няма сумненняў, што некаторыя абвінавачваемыя — «адмарожаныя» забойцы. Не зразумела толькі, у якім аб'ёме яны бралі ўдзел у справе Завадскага. Але суд, як я разумею, не настроены высветліць ісціну. Ён настроены максімальна хутка закончыць працэс і закрыць справу», — лічыць Шарамет. На яго думку, менавіта гэтым тлумачыцца і закрытасць працэсу.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Молдова становится на путь Беларуси

*Окончание, начало на стр.1*

Аналогичного мнения придерживается и идейный соратник молдавского президента, российский коммунист, спикер Госдумы Геннадий Селезнев, в ходе встречи с Ворониным заявивший, что новый Договор исключит двусмысленность во взаимодействии двух стран. Воронин и Селезнев обсудили также проблемы русскоязычного населения в Молдовы. Как сообщает РИА-Новости, Воронин заявил, что поскольку «русский язык по-прежнему остается языком межнационального общения в республике», с 2002 года в молдавских школах со второго класса вводится обязательное изучение русского языка. Геннадий Селезнев и Владимир Воронин не обошли вниманием и проблемы развития культурных, научных, межпарламентских, экономических связей. В частности, Владимир Воронин отметил, что «в 2001 году экспорт Молдовы в Россию увеличился на 36%, что для Кишинева является позитивным фактом».



Экономические проблемы обсуждались на встрече Воронина с Путиным. Так, президенты договорились о том, что для придания динамики сотрудничеству экономические проблемы необходимо обсуждать на межминистерском уровне. Симптоматично, что, открывая российско-молдавские переговоры в расширенном составе в Кремле, Владимир Путин отметил позитивные изменения в отношениях между двумя странами. Это, по его мнению, связано с тем, что в Молдовы решаются проблемы экономики, повышается уровень жизни. Владимир Путин отметил, что Владимир Воронин проинформировал его о планируемом повышении пенсий и заработной платы в Молдовы. Российский президент выразил мнение, что за прошедшие полгода в молдавской экономике произошли положительные изменения и опасения экспертов о возможности возрождения в Молдовы плановой экономики не оправдались. «Наоборот, — заявил Путин, — укрепляются рыночные механизмы, расчищаются завалы, укрепляется администрирование». Он также подчеркнул, что Россия будет продолжать сотрудничество с Молдавией в области энергетики и в других областях.

Обсудили президенты и перспективы приднестровского урегулирования. По словам Путина, который высказался за продолжение переговорного процесса в существующем пятистороннем формате, при рассмотрении этого вопроса «мы старались максимально объективно оценить сложившуюся ситуацию». Президент России считает, что необходимо в полной мере использовать уже испытанные механизмы и каналы для налаживания конструктивного политического диалога между Кишиневом и Тирасполем.

Со своей стороны, Владимир Воронин заявил, что удовлетворен темпами вывода российских войск из Приднестровья. «Нельзя представлять дело таким образом, что если российские войска уходят из Приднестровья, то оно останется незащищенным, — сказал Воронин. — Я не согласен с таким тезисом, тем более что никто не собирается нападать на Приднестровье».

**Игорь Ротару**
**GazetaSNG.ru**

# Еўропа вагаецца

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Давер Еўропы лёгка згубіць, але цяжка аднавіць. Пакуль канчатковага рашэння па Беларусі ў Палітычнага камітэта ПАСЕ няма. Дэлегацыя накіруецца ў Беларусь, каб на свае вочы пабачыць – ці праўда тое, што абяцаюць улады (эканамічны прагрэс, дынамічнае развіццё грамадства і г.д.), і тое, пра што кажуць апазіцыя і недзяржаўныя ўстановы (новыя рэпрэсіі супраць апазіцыі, недзяржаўнага сектара і сродкаў масавай інфармацыі).

Літоўскі бок, які быў прадстаўлены на сустрэчы, выступаў за адмену ізаляцыі Беларусі. У панядзелак падчас выступу перад удзельнікамі форуму старшыня Сейма Літвы Артурас Паўлаўскас сказаў, што лічыць немэтазгодным ізаляцыю Беларусі ад дэмакратычных працэсаў, што адбываюцца цяпер у Еўропе. А кіраўнік літоўскай дэлегацыі ў Палітычным камітэце ПАСЕ Ёнас Чакуоліс заявіў, што Літва гатовая падзяліцца з Беларуссю вопытам пры заснаванні інстытута омбудсмена (упаўнаважанага па правах чалавека) – аднак чакае, пакуль беларускія ўлады выявяць гатоўнасць пераняць такі вопыт.

Пазіцыю нашых паўночных суседзяў зразумець лёгка. Ім вельмі нявыгадна мець пад бокам краіну-ізгоя, бо гэта як мінімум будзе вымагаць значнага фінансавання для аховы «небяспечнай» мяжы. Таму яны першыя настойваюць на палёгках для Беларусі. Астатнія краіны, аднак, былі не на столькі аптымістычныя ў дачыненні да далейшага лёсу Беларусі ў ПАСЕ.

БелаПАН падае са словаў Ё.Чакуоліса, што нядаўна генеральны сакратар Савета Еўропы Вальтэр Швімер накіраваў беларускім уладам ліст, дзе былі выкладзеныя чатыры ўмовы, пры выкананні якіх СЕ аднавіў бы дыялог з Беларуссю. Сярод гэтых умоваў – умацаванне паўнамоцтваў парламента, адмена смяротнага пакарання, гарантыі незалежнасці СМІ і заснаванне інстытута омбудсмена.

Тым часам, каля 20 беларусаў, што стала жывуць у Літве, у аўторак пікетавалі Вільнюскую ратушу, дзе адбывалася паседжанне Палітычнага камітэта ПАСЕ. Яны пратэставалі супраць недэмакратычных падзеяў у Беларусі – у прыватнасці, супраць закрыцця ўладамі газеты «Пагоня».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Ігар Варашкевіч: «Я хворы на рок-н-рол»

*Калі кажуць «ветэраны беларускага рока», усе перш за ўсё ўяўляюць гурт «Крама» і ў прыватнасці барадатага Ігара Варашкевіча. Калі «Крама» выступае – у клубах заўсёды аншлаг. Нядаўна Беларуская музычная альтэрнатыва выпусціла кампакт-дыск «Крама: the best», у які ўвайшлі лепшыя, на думку складальнікаў, дзесяць песень гурта за дзесяць гадоў існавання. Аб гісторыі стварэння «Крамы» разважае яе лідэр і бяззменны саліст Ігар Варашкевіч:*


Фота Ул.ШЛАПАКА

— Юрый Цыбін выпусціў кампакт з усёй гісторыі «Бонды», майго ранейшага гурта. Стылістычна, гэта музыка такая, як і крамаўская. Тады, напрыканцы васьмідзесятых, было напісана шмат песень пад уплывам польскіх гуртоў, бо тады была польская хваля. Гучала гэта як нешта сярэдняе паміж хард-дыскам і хард-рокам. Шмат песень вядомых я напісаў, тыя ж «Слуцкая брама», «Стэфка»... Яны спяваліся ў «Бондзе», а пасля выконваліся «Крамай».

Што ж датычыцца так званага пераходу «Бонды» ў «Краму», то ніякага пераходу не было, бо «Бонда» проста скончыла сваё існаванне праз пяць гадоў пасля пачатку музычнай дзейнасці. Скончыла, як сканчацца кожная справа. Спачатку сышоў Вячаслаў Корань з бас-гітарыстам Краўчанкам. Тады якраз пачалі ў нас узнікаць спрэчкі ў моўных ідэях. Сабраліся, запісалі апошні альбом, і ў 1989 годзе разышліся.

Пасля былі спробы рэанімаваць гурт, але нічога не атрымалася. Пасля мяне запрасілі басістам да сябе Ілля Шаўчук і Сяржук Трухановіч. Там таксама былі Руслан Праўда, Толік Гарбач – першы чалец «Крамы». Праўда, гэта яшчэ не «Крама» была, а гурт «Рокіс».

Нешта мне падабалася ў іхніх ідэях і распрацоўках, нешта не. У выніку мы запісалі альбом, які амаль ніхто не чуў. Штучны атрымаўся, бо музыка, якую мне даводзілася спяваць, не мной была напісаная. Прыходзілася перарабляць і ў выніку гібрыд атрымаўся не вельмі ўдалы.

Потым я прапанаваў іграць свае песні, у прыватнасці: «Хворы на рок-н-рол» і «Бяжы, бяжы, хлопец».

***— Спадар Варашкевіч, калі вярнуцца да гісторыі стварэння, то чаму менавіта «Крама», які ў гэтым сэнс?***

— Вось слова «Крама». Можа быць ніякага сэнсу, а можа быць шмат сэнсу. Проста кароткае беларускае слова. Гэтую назву прапанаваў Анатоль Сыс, калі яшчэ «Бонда» існавала. Час сэнсу ў назвах тады ўжо адышоў, ён быў абсалютна непатрэбны...

***— А як слухачы «Бонды» сталі ў свой час у слухачоў «Крамы»?***

— «Бонда», так атрымліваецца, была больш элітнай групай. У той час панаваў хэві-метал і ўся публіка была «металічнай». А мы былі, як папугай на шэрым дрэве. Не ў свой час з'явіліся. З «Крамай» у гэтым сэнсе было зусім не так. І публіка пашыралася нават на самым пачатку. Але пасля вось мы не выступалі на шырокай аўдыторыі ўжо гады тры, і нас пачалі забываць.

Нельга жадаць, што будуць збірацца нейкія суперпоўныя залы. Гэта не Польшча, дзе сваім густам не здраджваюць (не забываюць тых, хто граў, прыкладам, у 70-х). На нашай тэрыторыі будуць помніць толькі таго, хто зараз грае, хай сабе і ў альтанцы пад гітару. І нягледзячы на такую традыцыйную форму музыкі за кошт беларускай мовы, мы і зараз засталіся элітарным гуртом, бо асноўныя масы нас не разумеюць. Але мяне задавальняе невялікая колькасць слухачоў. Нашу музыку трэба слухаць, а качаца па сцэне – гэта не наша.

***— Апошнім часам вас было амаль не чуваць. Што рабілі апошнія гады?***

— Апошнія гады мы зарабілі сабе на хлеб музыкай. Галоўнай мэтай на некаторы час стала камерцыйнасць. З'явілася мара пачаць жыць нармальна ў матэрыяльным плане. Пануе такая думка, што мастак, творчы чалавек павінен абавязкова быць бедным. Але калі ў мяне будзе поўная лядоўня каўбасы, хіба ж я не буду працаваць?!

***— Дзе вы вучыліся? Як прыйшлі да музыкі?***

— Я скончыў мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, а пасля працаваў па спецыяльнасці ў Баранавічах. Што ж накошт музыкі, то пасля таго, як у дзевятым класе я марыў стаць падарожнікам, пачаў пакрыху граць рок, бо падарожніцтва і такая музыка – падобныя стыхіі. Тады і пачаў марыць стаць рок-музыкантам. І ўжо можна сказаць, што даўняя мара майго дзяцінства здзейснілася.

***— Усе ўспрымаюць вас, у прыватнасці і «Краму» ў цэлым, як легенду. Што вы збіраецеся рабіць зараз: скончыць творчы шлях на дзесятым годзе існавання гурта ці далей шукаць нешта новае?***

— Шчыра кажучы, я яшчэ сам для сябе гэта не вырашыў і вельмі часта задаю сабе падобнае пытанне. Можа быць, варта ўжо і скончыць, бо ў ідэале ўсё, што можна было зрабіць – зроблена. Але крамаўскае месца на рынку музыкі незанятае і, па вялікім рахунку, можна гэтак жа працягваць граць, не баючыся прайграваць канкурэнцыю. Вось сапраўды, што не дае яшчэ скончыць граць – дык гэта дэфіцыт якасных гуртоў на Беларусі. Да таго ж да музыкі прызвычайваешся, як наркаман, і пасля дзесяці гадоў цяжка адмовіцца — робішся хворым. Хворым на рок-н-рол.

Увогуле, можна змяніць стыль, накірунак, зрабіць іншы праект, магчыма панкаўскі. Для такіх песень, як «Хавайся ў бульбу» (а іх у мяне шмат). Магчыма ўжо не хапае жадання і энергіі, а таксама людзей, якія б здолелі разам са мной гэта рабіць. Усе ўвесь час патрабуюць нечага новага, незвычайнага. Дык я магу і рэп граць, і метал, але ж проста не люблю. Спяваю тое, што мне падабаецца. І спяваю тыя песні, якія нарадзіліся ў мяне ў сэрцы. Бо не магу нічога рабіць штучна. А наконт навізны – дык заўсёды былі такія песні, якія стылістычна выбіваліся з агульнага шэрагу таго часу, можна сказаць, новахвалевыя: «Камендант», «Гэй там, налівай»...

***— Я чула, што нядаўна прадстаўленая песня «Падае дождж» – у нейкім сэнсе не зусім ужо новая, але ж яе ніхто не чуў?***

— Сапраўды, не зусім. У гэтай песні, а дакладней мелодыі, цікавая гісторыя. Яна была прыдуманая яшчэ ў 1995 годзе, калі мы пісалі альбом «Камендант», падчас якога запісалі яшчэ шэсць кампазіцыяў, сярод якіх і гэтую. У яе быў крыху іншы рытм і не было тэксту. А мінулым летам мы зрабілі яе павольнай і пачалі граць з прыпеву, хаця тэкст атрымаўся даволі традыцыйна-баладны. Але ж такіх баладаў даўно ўжо ніхто не спяваў.

***— А ці можна неяк вызначыць прынцыпы беларускага блюза на прыкладзе вашага гурта?***

— Безумоўна, так як я хварэў усё жыццё блюзам, то я, проста выкарыстоўваючы блюзавую аснову, пісаў песні ад сэрца. Але ў нас ёсць нешта сваё, гэта не традыцыйны блюз. Нават песня «Чыкага Найтс» — гэта не зусім блюз. І «Камендант», нягледзячы на сваю манатоннасць, песня не блюзавая. І дзякуючы гэтаму мы ні да кога не падобныя.

«Дай мне шанец» спявала калісьці «Крама». Шанец гурт меў і выкарыстаў яго. Мо, не на поўніцу, але след у гісторыі ўжо пакінула адметны. Дзесяць гадоў працы, няўдач і поспехаў. Атрыманне ў 1994 годзе рок-кароны. Запіс самых вядомых сваіх альбомаў «Хворы на рок-н-рол»(1993), «Гэй там, налівай»(1994), «Камендант»(1995). Частка гэтага змешчана на кампакце *«The best»*.

**Гутарыла Ірына ТОЎСЦІК**

## Пушча пад пагрозай

Звольнены з пасады намеснік дырэктара Дзяржаўнага нацыянальнага парку (ДНП) «Белавежская пушча» па навукова-даследчай працы Георгій Казулька.

Кандыдат біялагічных навук Г.Казулька займаў гэтую пасаду на працягу апошніх гадоў. На думку ягоных калегаў, за гэты перыяд значна ўмацаваўся навуковы аддзел і міжнароднае супрацоўніцтва. Супрацоўнікі «Белавежскай пушчы» ўзялі ўдзел у шэрагу міжнародных навуковых семінараў. Былі распрацаваныя новыя праекты, якія прадугледжвалі фінансаванне з замежных крыніцаў. З прыходам новага дырэктара ДНП Мікалая Бамбізы палітыка ў адносінах да навуковай работы змянілася. Выказваючы нязгоду з тым, што адбываецца згортванне навуковай працы, Казулька напісаў заяву з просьбай перавесці яго з пасады намесніка дырэктара навуковым работнікам у аддзел. Але яму паведамілі, што ён звольнены ў сувязі з заканчэннем кантракта; іншую працу ў ДНП Г.Казульку не прапанавалі.

Казулька — не адзіны супрацоўнік, звольнены з нацыянальнага парку: за апошнія паўгода з «Белавежскай пушчы» звольнілі больш за сто работнікаў. Кадравыя перастаноўкі тут звязваюць з імем Бамбізы. З яго прыходам у ДНП пачалася высечка лесу ў сямі кварталах на плошчы 50 гектараў. Пасля таго, як навуковыя работнікі ДНП выступілі супраць, рубка лесу была прыпыненая. Менавіта гэта стала падставай для звальнення Георгія Казулькі. Два дысцыплінарныя спагнанні атрымаў галоўны ляснічы Яўген Смактуновіч, які таксама адкрыта выступаў супраць высечкі лесу, лічачы яе неабгрунтаванай.

Як лічаць супрацоўнікі ДНП, вынікам новай палітыкі кіраўніцтва парку можа стаць адкліканне дыплома Савета Еўропы. Ён быў выдадзены ДНП «Белавежская пушча» ў 1997 годзе. Праз пяць гадоў, гэта значыць у 2002 годзе, дыплом павінен быць працягнуты або адкліканы. Паколькі зараз у ДНП згортваюцца прыродаахоўныя мерапрыемствы і навуковыя даследаванні, гэта можа стаць падставай для адклікання дыплома.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Адраджэнне батлейкі

*Батлейка – беларускі народны лялечны тэатр. Назва паходзіць ад горада Віфлеема (Батлеема), дзе, паводле Бібліі, нарадзіўся Ісус Хрыстос.*

Батлейка з'явілася ў Беларусі ў 16-ым стагоддзі. Гэты від тэатра прыйшоў да нас з Заходняй Еўропы, непасрэдна – з Польшчы, а туды – з Італіі, дзе ён вядомы ажно з 12-га стагоддзя. У розных рэгіёнах нашай краіны батлейку называлі яшчэ батляемкай, остлейкай, жлобам, вяртэпам ці яселкай. Ва Украіне наша батлейка – гэта вяртэп, у Польшчы – шопка, у Расіі – вярцеп.

Батлейкавыя дэкарацыі – гэта адмысловая скрынька, якая можа быць самых розных памераў. Звычайна яна ладзілася ў выглядзе хатак ці царквак. У гэтай скрыньцы рабілася некалькі гарызантальных перагародак — сцэнічных ярусаў, што нагадваюць балкон. А ў іх – прарэзы, па якіх батлейшчык, схаваны за скрынькай, і вадзіў драўляных, папяровых ці тканевых персанажаў з дапамогай шпянёў. Праўда, былі яшчэ марыянеткавыя батлейкі, з лялькамі на нітках, і батлейкі з лялькамі-пальчаткамі. Класічныя батлейшчыкі ведалі шмат спосабаў не проста вадзіць ляльку шпянямі туды-сюды, але і як шматкроць павялічваць іх рухавасць. Было шмат хітрых і не вельмі сакрэтаў у механіцы ажыўлення. Смерць магла махаць касой, а ў Ірада ў пэўны момант адвальвалася галава. Часта ў гэтую ляльку запіхвалі муху, і калі Ірадава галава адвальвалася, насякомае вылятала. Гледачы дзівіліся: гэта значыць, вылятала душа ягоная. Напрыканцы пазамінулага стагоддзя нярэдкімі былі так званыя жывыя батлейкі (батлеі), дзе персанажаў гралі людзі, а не лялькі.

Батлейка мела і свецкі, і рэлігійны змест, але з'явілася менавіта як містэрыя. Адсюль і аздабленне скрынек абразкамі, свечкамі ды крыжамі. Батлейкавыя пастаноўкі падзяляліся, кажучы па-сучаснаму, на два акты: адзін з кананічным сюжэтам, які паказваўся на верхнім ярусе, і другі народна-пабытавы з камічнымі сцэнкамі і народнымі песнямі – на ніжнім. Немаўлятка Ісус, Дзева Марыя ды анёлы – уверсе, а цыган, габрэй, Мацей, Антон з казой з інтэрмедыяў – унізе. Народна-пабытавыя сцэнкі часта былі вострасатырычнымі. Тут высмейваліся, напрыклад, махляры доктар ці карчмар, фанабэрысты шляхціц, а як станоўчы персанаж паўставаў селянін. Таму батлейка была досыць папулярнай у народзе. Уладальнік пераноснай батлейкі, які-небудзь шкаляр, клаў яе на санкі ці на цялегу і вазіў паказваць, зарабляючы з таго, ад хаты ў хату.

Але з 20-га стагоддзя батлейка пакрысе пачала занепадаць, дэманстравацца ўсё радзей. І непрыкмет знікла. Энцыклапедыі падаюць, што пасля публічных паказаў батлейкі ў 1962-ім і ў 1963-ым гадах у Слуцкім раёне настаў амаль трыццацігадовы перапынак. Пра батлейку ўспомнілі і зноў пачалі вырабляць адмысловыя скрынькі і лялек трохі болей дзесяці гадоў таму. Цяпер яна багата дзе ёсць – пры касцёлах, гімназіях ды клубах. У Мінску, напрыклад, самымі вядомымі лічацца батлейкі з Чырвонага касцёла, у «Беларускай хатцы», філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, і Івана Кірчука, лідэра этна-гурта «Тройца».

Праўда, такой папулярнай у народзе, як калісьці, батлейка не стала і выглядае цяпер збольшага нейкай дэкаратыўнай і эпізадычнай з'явай. Натуральна, яна не можа нароўні канкураваць з сучаснымі формамі тэатра, але батлейка магла б быць куды больш распаўсюджанай і глядзельнай, каб у нашай краіне ўважалася б за гонар шанаваць нацыянальныя традыцыі. Прыкладам, мець дома беларускі народны касцюм, апранаць яго на святы, як гэта ёсць за мяжой, у тых самых Літве, Польшчы, перадаваць у спадчыну дзецям. Ці вось хадзіць глядзець батлейку пад дуду, ну, хоць бы на Каляды... Але тут мала каму што патрэбна. У выніку батлейкі, створанай Іванам Кірчуком, у Беларусі ўжо няма. Праіснаваўшы 5 гадоў, яна была звезеная ім у Галандыю. Там, відаць, батлейкавыя пастаноўкі і як тэатр, і ў якасці музейнага экспаната больш ацанілі, чымсьці ў нас.

Добра, што да гэтай пары застаецца дзеючай батлейка з «Беларускай хаткі». Менавіта з яе пачаўся ў пачатку 90-ых некаторы батлейкавы бум, менавіта гэтая батлейка ёсць самай глядзельнай і па частаце, і па аўдыторыі. Колішні дырэктар «Беларускай хаткі» і загадчык тамтэйшай батлейкі на працягу дзесяці гадоў паэт Эдуард Акулін распавёў, што яна паказвалася ўжо больш паўтары тысячы разоў. Прыкладна кожныя два дні. Спачатку наведвальнікі філіяла Літаратурнага музея Багдановіча, знаёмячыся з ягонай экспазіцыяй, бачаць фрагменты батлейкі, а потым ужо адмыслова пераходзяць на паўнавартасную пастаноўку. Батлейка з «Беларускай хаткі» паспела нават зняцца ў кіно, у тым ліку ў мастацкім фільме па п'есе Янкі Купалы «Тутэйшыя», а рэжысёр Мікалай Пінігін спецыяльна прыязджаў глядзець батлейку, каб потым выкарыстаць шмат якія элементы ў сцэнаграфіі да аднайменнага спектакля.

Цікавая яна і тым, што зробленая ў гонар Максіма Багдановіча. Эдуард Акулін расказвае, што паэту на Каляды 1915 года па прыездзе ў Мінск у «Беларускай хатцы», клубе творчай інтэлігенцыі пачатку мінулага стагоддзя, была прадэманстраваная батлейка. Наогул «Цара Ірада» тады паказалі 90 разоў на месяц. У адраджэнскіх колах адбыўся сапраўдны батлейкавы бум. Упадабаў яе і Багдановіч. У яго нават узнікла ідэя цэлы год правандраваць па Беларусі з батлейкай. Не дазволіла імперыялістычная вайна, а потым смерць паэта.

Напрыканцы мінулага стагоддзя, калі паўставала новая «Беларуская хатка», было вырашана адрадзіць і батлейку ў ёй. Была зробленая копія адной з нямногіх ацалелых старых батлеек з Магілёўшчыны канца 19-га стагоддзя. Яна захоўвалася ў Санкт-Пецярбургу. Вывучаць яе і рабіць эскізы туды паехаў на замову «Беларускай хаткі» мастак Алесь Лось, які некалькімі гадамі раней зрабіў сваю батлейку і меў у гэтым пэўны досвед. Атрымалася класічная батлейка – метр на метр дваццаць (зрабілі яе на мастацкім камбінаце). Алесь Лось падарыў дуду, паэт Максім Лужанін – цымбалы: музыка на гэтых інструментах заўсёды была абавязковым суправаджэннем батлейкавых містэрыяў і інтэрмедыяў. Дарэчы, праз пару гадоў, як з'явілася і пачала дзейнічаць батлейка ў «Беларускай хатцы», у сталічным Цэнтры лялек і гульні паставілі вырабніцтва батлеек на камерцыйны канвеер.

Эдуард Акулін прыгадвае цэлыя паломніцтвы на батлейкавыя сеансы і маркуе, што сучасны тэатр спрэс батлейку не заціснe, бо яна, «як бутэлька з добрым віном» – і развесяліць, і ўмудрыць.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**


Паэт і батлеечнік Эдуард Акулін з батлейкай

ЭКАЛОГІЯ

# Магільнік у Соснах

Каля 1 тысячы прамысловых і мэдыцынскіх прадпрыемстваў, а таксама дасьледчых інстытутаў у Беларусі выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасьці розныя радыеактыўныя матэрыялы. Штогод такія прадпрыемствы назапашваюць каля 8 тонаў радыеактыўных выкідаў і больш як 6.000 адзінак адпрацаваных крыніцаў.

Магільнік у нас. Сосны пад Менскам – гэта адзіная ў Беларусі станцыя па захоўваньні такіх выкідаў, якая адпавядае патрабаваньням СПОРО-85 (санітарныя правілы абыходжаньня з радыеактыўнымі выкідамі). Магільнік быў створаны ў 1960 годзе і дзейнічае з 1963 году. Ён разьмяшчаецца ў непасрэднай блізіні ад 6 населеных пунктаў (Сосны, Трасьцянец, Заямачнае, Апчак, Замасточча, Стайкі).

У дасьледаваньні, праведзеным эколягам Элеанорай Гвазьдзёвай, на падставе дадзеных Інстытуту радыеацыйных праблемаў, робіцца выснова, што радыеактыўны могільнік стварае патэнцыйную пагрозу экалягічнай сыстэме і людзям. Як паказалі экспэртызы, што былі праведзеныя Інстытутам у пэрыяд 1996-1999 гг., стан могільніка не адпавядае сучасным стандартам бясьпекі і экалягічнай якасьці.

Асноўнай прычынай занепакоенасьці спэцыялістаў стала магчымае забруджваньне грунтовых водаў радыенуклідамі. Аднак вымярэньне нукліднага складу радыеактыўных рэчываў у грунтовых водах не праводзіцца. З прычыны адсутнасьці абсталяваньня і сродкаў не вядзецца маніторынг па многіх парамэтрах. Экалягічная камісія Нацыянальнай акадэміі навук толькі зараз прызнала неабходным рабіць хіміка-аналітычны маніторынг вады і глебы, аднак пакуль гэта застаецца толькі праектам.

Акрамя таго, існуе шэраг парушэньняў пры захоўваньні выкідаў: не праводзіцца вымярэньне ўтрыманьня радыеактыўных рэчываў у арганізмах пэрсаналу, адсутнічае радыемэтрычны кантроль у сховішчы №1, дзе знаходзяцца ядзерныя матэрыялы, якія не павінныя там захоўвацца. Нідзе ў сьвеце няма вопыту захоўваньня ядзернага адпрацаванага паліва і радыеактыўных выкідаў сумесна.

Выснова аб неабходнасьці кансэрвацыі і лякалізацыі распаўсюду радыенуклідаў была зробленая яшчэ ў 1999 годзе пасьля экспэртызаў, праведзеных Інстытутам радыяцыйных праблемаў: «сапраўдны стан радыеактыўных выкідаў ...не забясьпечвае доўгатэрміновай радыеактыўнай бясьпекі для навакольнага асяродзьдзя і не адпавядае асноўным прынцыпам бясьпечнага захоўваньня радыеактыўных выкідаў». На тэрыторыі дасьледчага інстытуту ў Соснах пад адкрытым небам ляжыць 5 тонаў старой глебы, бо захоўваньне 1 кг радыеактыўных выкідаў каштуе 9$ (45.000$ за 5 тонаў). Аднак прадпрыемства «Экорэс», якому належыць могільнік, ня мае такіх сродкаў.

**BARCNEWS**

# Четыре предубеждения

*Курение, хронический стресс, недостаток сна и отдыха, небольшие физические нагрузки, неправильное питание – характерные черты нашей жизни. В результате к началу XXI века такое заболевание, как артериальная гипертония, по мнению ученых, принимает масштабы эпидемии. Действительно, по данным 1999 года, у 40% нашего населения артериальное давление выше нормы. А должным образом лечат в западноевропейских странах 30% больных, у нас – лишь 8%... Виноваты в этом не только врачи, но и сами пациенты. К тому же вокруг этого заболевания сложилось много предубеждений, в корне неправильных.*

**Предубеждение первое**: «зачем мне знать свое давление, если меня оно не беспокоит?!». Известно, что большинство ощущают лишь значительное повышение артериального давления. Поэтому узнавать свое давление только один раз за два-три года в кабинете участкового терапевта явно недостаточно. Полезно приобрести тонометр – аппарат для измерения давления — и периодически самостоятельно проводить эту технически несложную манипуляцию.

**Предубеждение второе**: «да, у меня есть давление, но зачем его лечить? Полежу – пройдет, ну уж если совсем плохо будет, что-нибудь да приму». Все не так просто. Скачок давления, знакомый многим, отразится на здоровье не сегодня. Возможно, лишь через десятки лет, хотя, вполне вероятно, и гораздо раньше. Артериальная гипертония ускоряет развитие атеросклероза, увеличивает риск инсульта, инфаркта, сердечной и почечной недостаточности. Каждое повышение артериального давления – это небольшой, но уверенный шаг к этим опасным заболеваниям. Поэтому лечение должно быть направлено не просто на снижение давления, когда оно уже повысилось, а именно на предупреждение такого повышения.

**Предубеждение третье**: «такое давление для других высокое, а у меня оно давно такое. Это для меня привычное, а значит, нормальное». Это не так. Всемирная организация здравоохранения выработала четкие рекомендации: для больных артериальной гипертонией молодого и среднего возраста, а также для страдающих сахарным диабетом артериальное давление не должно превышать 130/85 мм рт. ст., а для пожилых – 140/90 мм рт. ст. Следовательно, если обычно давление выше этих цифр, то оно ненормальное. Эти рекомендации не беспочвенны. Они основаны на результатах многолетних исследований. Такие исследования активно проводились и проводятся сейчас в клиниках разных стран, в том числе и России. В них задействованы тысячи врачей и десятки тысяч пациентов.

**Предупреждение четвертое**, самое частое: «если я буду лечиться, то надо пить лекарства. Так они мне печень испортят!» Не стоит бояться принимать препараты! Да, иногда возможны определенные побочные эффекты. Но современный кардиолог обладает целым арсеналом лекарственных средств. В случае каких-либо неприятных ощущений ваш лечащий врач всегда сможет заменить одно средство на другое, подобрать наиболее удобное вам. К тому же на печень они не влияют! Сейчас вполне доступны препараты длительного действия. Они удобны, поскольку не требуют приема несколько раз в день. Достаточно, например, утром выпить таблетку, которая будет целые сутки предохранять вас от повышения давления. Неоспоримо лучше принимать один-два препарата сейчас, чем пять препаратов через три года. И врачу намного проще справляться с артериальной гипертонией сегодня, чем лечить инсульт или инфаркт десять лет спустя.

Но как бы ни был технически оснащен врач, какие бы новые и эффективные препараты он ни назначал, пятьдесят процентов успеха – это желание, воля и усилия пациента. Ведь, помимо приема лекарств, в лечении артериальной гипертонии очень важную роль играет здоровый образ жизни. А это в первую очередь отказ от курения, а также снижение массы тела, увеличение физических нагрузок, ограничение употребления соли и алкогольных напитков. Не забывайте и про питание: ограничьте жиры, уделяйте внимание овощам и фруктам. И побольше положительных эмоций!

**Артем ДОЛЕЦКИЙ,**
**врач-кардиолог**

# Геаграфічны цэнтар Эўропы – у Беларусі

**НАГАДАЕМ КААРДЫНАТЫ КРАЙНІХ ПУНКТАЎ ЭЎРОПЫ:**

| | | |
|---|---|---|
| Паўночны | мыс Нордкін | 71°08′ Пн.ш. |
| Паўднёвы | мыс Марокі | 36°00′ Пн.ш. |
| Заходні | мыс Рока | 9°31′ З.д. |
| Усходні | Палярны Ўрал | 67°20′ У.д. |

З школьных хрэстаматыяў па геаграфіі нам вядома, што афіцыйна цэнтар Эўропы знаходзіцца ў Закарпацьці, паміж горадам Рахавам і пасёлкам Ясіня, на правым беразе ракі Цісы ў горнай цясьніне паўднёвых схілаў Украінскіх Карпатаў. Тут яшчэ ў 1880 г. быў пастаўлены геадэзычны знак-стэля з лацінскім надпісам, які сьцьвярджае, што менавіта гэтае месца і ёсьць геаграфічны цэнтар Эўропы.

Але апошнім часам у друку шматлікіх краінаў Усходняй Эўропы зьяўляюцца артыкулы са спробамі перагледзець і абвергнуць гэты факт. Вугорскія й чэскія навукоўцы робяць намаганьні знайсьці геаграфічны цэнтар у сваіх краінах, але пакуль беспасьпяхова. Беларускі пісьменнік зь Беласточчыны Мікола Гайдук у кнізе «Паратунак» сьцьвярджае, што «акрэсьлены геаграфічны цэнтар Эўропы знаходзіцца ў мястэчку Сухаволя, усяго ў няцэлых 50 км на поўнач ад Беластока». Ня так даўно ў часопісе «Панама» прафэсар А.Багдасараў абвергнуў факт, што нібыта яшчэ адзін цэнтар Эўропы знаходзіцца ў Берасьці.

Каралявецкі (калінінградзкі) географ П.Фёдараў у 1986 г. у кнізе «У карты Калининградской области» заўважыў, што ёсьць дзьве мэтодыкі вызначэньня геаграфічных цэнтраў. Паводле адной зь з іх – мэтодыкі «цэнтру цяжару» – «геаграфічны цэнтар мацерыковай часткі Эўропы знаходзіцца паміж Вільняю і Менскам, усяго за 300 км на ўсход ад Калінінграда». Другі мэтад вызначэньня – каардынатны, і калі выкарыстоўваць яго, то атрымаецца, што геаграфічны цэнтар Эўропы знаходзіцца менавіта ў Беларусі, на мяжы Бярэзінскага раёну Менскай вобласьці і Клічаўскага ды Асіповіцкага раёнаў Магілеўскай. Калі быць больш дакладнымі, то згаданы цэнтар Эўропы знаходзіцца на паўднёвай ускраіне вёскі Крупка Якшыцкага сельсавету Бярэзінскага раёну, за 2 км на захад ад мяжы з Магілеўскаю вобласьцяй.

Дакладна пасярэдзіне крайняй паўночнай і крайняй паўднёвай паралеляў, між якімі зьмяшчаецца Эўропа, праходзіць паралель 53°34′ Пн.ш.

У сваю чаргу, паміж мэрыдыянамі, што абмяжоўваюць Эўропу на ўсходзе і захадзе, ляжыць сярэдзінны мэрыдыян 28°54′30″У.д.

Правёўшы па карце гэтыя сярэдзінныя паралель і мэрыдыян, знаходзім на іх перакрыжаваньні каардынатны цэнтар Эўропы. У самым цэнтры Эўропы і знаходзіцца вёска Крупка, тая, што ляжыць крыху на паўднёвы захад ад вёскі Чыжахі. Як тут ня ўспомніць словы віцэ-прэзыдэнта АН Беларусі Радзіма Гарэцкага пра тое, што «геаграфічны цэнтар кантынэнтальнай Эўропы знаходзіцца ў сярэдзіне трыкутніка паміж гарадамі Чэрвень—Асіповічы—Клічаў – за 2 км на паўднёвы захад ад сяла Чыжахі, на рацэ Бярэзіне. Як бачна, Беларусь – самая сярэдзіна Эўропы».

**Ігар ШАРУХА**

СПОРТ

# «Белшына» выступіць у кубку СНД

У дзесятым, юбілейным розыгрышы кубка чэмпіёнаў Садружнасці незалежных дзяржаваў, што традыцыйна пройдзе ў Маскве ў сярэдзіне студзеня, на гэты раз ад Беларусі прыме ўдзел яе новы чэмпіён бабруйская «Белшына».

Ужо ў каторы раз прызавы фонд кубка складзе 100 тысяч долараў (пераможца атрымае 35 тысяч). Зараз гэтыя грошы месячны бюджэт сярэдняй каманды, і моцныя клубы кшталту «Спартака» ці кіеўскага «Дынама» лічаць гэты турнір хутчэй трэніроўкай.

Прайшоўшая жараб'ёўка выявіла наступны склад групы «Д», дзе будуць гуляць футбалісты «Белшыны». Гэта чэмпіёны Туркменіі, Эстоніі і Кіргізіі. Гэта значыць каманды, якія значна слабей за цяперашні склад бабруйчан (калі, канешне, да студзеня яны не будуць прададзеныя куды-небудзь). Пуцёўку ў другі раўнд турніру дасць і другое месца ў групе.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

СЕНСАЦЫІ

# «Світкі Мёртвага мора»



На ўрачыстай цырымоніі ў Публічнай бібліятэцы Нью-Йорка ізраільскі прафесар Імануіл Тоу, які ачольваў групу гісторыкаў, што займаліся расшыфроўкай і выданнем так званых «Кумранскіх світкаў», ці інакш «Світкаў Мёртвага мора», абвясціў аб заканчэнні публікацыі знакамітых рукапісаў, паведаміла *Jerusalem Post*. «Світкі Мёртвага мора» — гэта запісаныя гістарычныя, богаслужэбныя, гаспадарчыя тэксты рэлігійнай суполкі іудзеяўессеяў, якія абасоблена жылі ў пячорах каля Мёртвага мора недалёка ад руінаў старажытнага паселішча Хірбет Кумран за 10 кіламетраў ад Ерыхона з 250 года да н. э. па 70-я гады нашай эры.

Усяго з 1947 па 1956 год у кумранскіх пячорах было знойдзена 15.000 пергаментаў і папірусаў рознай ступені захаванасці з тэкстамі на арамейскай і старажытнагабрэйскай мовах, а таксама на грэчаскай і на латыні. Поўны звод «Світкаў Мёртвага мора» склаў 37 вялізных тамоў. Яны выпушчаныя выдавецтвам Оксфардаўскага універсітэта пад назвай «Адкрыцці ў іудзейскай пустыні». Падрыхтаваныя да друку яшчэ 15 дадатковых тамоў.

Імануіл Тоу ўзначаліў працу па публікацыі світкаў у 1990 годзе, і з таго часу гэты няпросты працэс значна паскорыўся, бо група спецыялістаў была пашыраная з 9 да 98. Калі да 1991 года было апублікавана 8 тамоў, дык за апошнія 10 гадоў свет пабачылі 28. Імануіл Тоу кажа, што кіраваў працай вялікага калектыву вучоных дыстанцыйна са свайго офіса ў Іерусаліме, маючы толькі персанальны камп'ютэр, лазерны прынтэр і сродкі камунікацыі. Лічбавая фатаграфія і спектральны аналіз дазволілі прачытаць тыя месцы рукапісаў, якія немагчыма было разгледзець звычайнымі сродкамі. Кожны рукапіс скаціраваўся ў розных дыяпазонах і атрыманыя выявы рассылаліся спецыялістам для расшыфроўкі па электроннай пошце.

Яшчэ дзесяць гадоў таму выданне гэтых унікальных помнікаў старажытнасці здавалася амаль немагчымым — вузкая група вучоных, якія мелі да іх доступ, не жадалі ні з кім дзяліцца каштоўнымі дакументамі. І толькі намаганні з боку ўрада Ізраіля, а таксама сучасныя тэхналогіі дазволілі выканаць гэтую задачу. Па словах рэдактараў выдання, боязь некаторых рэлігійных навукоўцаў наконт таго, што выданне рукапісаў можа паставіць пад сумнеў галоўныя паняцці іудаізму ці хрысціянства, не мае падставы. «Кумранскія рукапісы» адразу ж пасля першых расшыфровак выклікалі гарачыя спрэчкі сярод гісторыкаў і тэолагаў як хрысціянскіх, так і іудзейскіх. Адныя знаходзілі неаспрэчныя доказы, што размова ў рукапісах там, где паведамляецца аб «Настаўніку праведнасці», аб яго вучэнні і яго цяжкім лёсе, датычыць Хрыста, іншыя бачылі гэткія ж неаспрэчныя доказы, што ніякага Хрыста наогул не было. «Не варта забываць, што значная частка гэтых дакументаў створаная да нашай эры, — адзначыў у сваім выступе прафесар Тоу. І таму Хрыстос у іх не мог быць узгаданы. Што датычыць рукапісаў першых гадоў першага стагоддзя нашай эры, дык усе ведаюць, што і кананічныя Евангеллі Новага Запавета, якія паведамляюць пра зямное жыццё Хрыста, былі створаныя не раней сярэдзіны таго стагоддзя». У любым выпадку, усе навукоўцы згодныя, што захаваныя ў такім аб'ёме дакументы аскетычнай рэлігійнай абшчыны — найкаштоўны матэрыял для запаўнення лакунаў у гісторыі Блізкага Усходу.

**Ева САЛАВЕЙ**

ПАМЯТКІ ДЗЁН





Фота Ул.ШЛАПАКА

Мінск. Царква чыгуначнікаў, 1910 год. Тое ж самае месца сёння. Замест царквы, зруйнаванай бальшавікамі ў 1937 годзе, памятны знак у гонар Мяснікова. Будынак на заднім плане скалечаны рэканструкцыяй у 1996 годзе

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1786 Нумар падпісаны ў друк 20/11/2001 (15:00) Наклад — 9.490